# БАЦЬКАЎШЧЫНА



**ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "BACKAUSCYNA" ("FATHERLAND")

Responsible Publisher: Wladimir BORTNIK

Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b.H. München 8, Rosenheimerstr. 46 a.

Post Adress: "Backauscyna", München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III

Die Administration der Weißruthenischen Zeitung „BACKAUSCYNA" München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND" | LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE"

№ 50 (129) — Нядзеля 14 сьнежаня 1952 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 6

# Няма антыбальшавіцкага цэнтру

**ЗЬ ВЯЛІКАЙ ХМАРЫ МАЛЫ ДОЖДЖ**

У вялікіх болях і нявымоўных муках нараджаўся пратэгаваны й падтрымліваны амэрыканскімі «праватнымі коламі» цэнтр антыбальшавіцкага змаганьня, які меў на мэце задзіночыць антыбальшавіцкія сілы эміграцыяў паняволеных народаў, як расейскага, гэтак і народаў нерасейскіх. Акцыя ў гэтым кірунку вялася ўжо ад двух год, пачынаючы ад фюсэнскай канфэрэнцыі (16-23. 1. 1951), праз штутгарцкую, вісбадэнскую й штарнбэрскую, ды канчаючы, пакуль што мюнхэнскай канфэрэнцыяй (10-18. 10. 52), на якой прыйшло, напасьледак, да змантаваньня толькі каардынацыйнага, а ня палітычнага, цэнтру пад ведамай назвай Каардынацыйнага Цэнтру Антыбальшавіцкай Барацьбы або ў скарачэньні — КЦАБ-у. Вакол усяе гэтае акцыі рабілася шмат шуму, прэсавыя камунікаты ўсіх гэтых канфэрэнцыяў паведамлялі аб вялікіх посьпехах перагавороў і пагадненьняў між расейскімі й нерасейскімі партнэрамі. Калі-ж, напасьледак, на апошняй канфэрэнцыі быў створаны КЦАБ, дык расейская прэса дастала ўзапраўднага «галавакружэньня ад посьпехаў», захлынаючыся ад радасьці із сваей «перамогі», што, ня гледзячы на розных «сепаратистов», жаданы цэнтр усё-ж такі створаны й супольная база супрацоўніцтва з «нацыяналамі» знойдзеная.

Што, аднак, прадстаўляе зь сябе ў запраўднасьці створаны імі цэнтр у форме КЦАБ-у, мы дастаткова выясьнілі ў сваім часе на балонах «Бацькаўшчыны». Мы там, апіраючыся на фактычны матарыял і канкрэтныя дадзеныя, якімі былі статут КЦАБ-у і сама практыка дзейнасьці ў ім расейцаў, аб'ектыўна сьцьвердзілі, што ня вельмі навет завуаляванай палітычнай канцэпцыяй КЦАБ-у зьяўляецца рэстаўрацыя адзінай і непадзельнай расейскай імпэрыі, юрыдычна няіснуючай ужо ад 1917 году, далейшае паняволеньне нерасейскіх народаў, і што ў сваей арганізацыйнай структуры КЦАБ загарантоўвае такое ўпрывілеяванае становішча расейцам, што арганізацыя гэтая ў сваей практычнай дзейнасьці станецца ня міжнацыянальнай, але расейскай імпэрыялістычнай арганізацыяй, падпёртай і падмацаванай дзеля прапаганды навонкі й атуманеньня нерасейскіх народаў унутры СССР мала аўтарытэтнымі арганізацыямі «нацыяналаў» Каўказу й Туркестану. Найвялікшыя сярод нерасейскіх народаў СССР і маючыя найбольшую ўдзельную ў ім вагу, беларусы й украінцы, да гэтага цэнтру ня прыступілі.

Усё гэта гаварыла за тым, што супольны з расейцамі цэнтр, хоць-бы навет толькі каардынацыйны, цэнтр, які-б абапіраўся на бальшыні эміграцыяў нерасейскіх народаў і мог мець паважны ўплыў на нерасейскія народы на бацькаўшчыне, ня быў створаны. Пародыя такога цэнтру ў форме КЦАБ-у ня можа й ня зможа замяніць запраўднага цэнтру з тае простае прычыны, што ён, маючы на мэце зьнішчыць бальшавіцкую турму народаў і падмяніць яе новай расейскай турмой пад іншым шыльдам, ніколі ня зможа ані задзіночыць вакол сябе запраўдных антыбальшавіцкіх сілаў нерасейскіх народаў, ані ня будзе мець прыцягваючай і мабілізуючай сілы на паняволеных бацькаўшчынах. Гэта не здагадкі й прыпушчэньні, але бясспрэчны факт, зь якім трэба лічыцца й зь якога неабходна рабіць далейшыя вывады.

**НЕЗАВІДНАЕ ПАЛАЖЭНЬНЕ АМЭРЫКАНСКАГА КАМІТЭТУ**

Калі ўжо быў на мюнхэнскай канфэрэнцыі хоць зь вялікімі цяжкасьцямі склееныя неяк КЦАБ і апублікаваны ягоны статут, усіх расейцаў і нерасейцаў інтрыгавала пытаньне, як аднясецца да яго Амэрыканскі Камітэт. Справа ў тым, што хаця не зьяўляецца ніякім сэкрэтам, што Амэрыканскі Камітэт дырыгуе ўсей гэтай акцыяй і акцэптуе ці не акцэптуе ейных вынікаў, то на канфэрэнцыі ягоныя прадстаўнікі ня былі навет прысутнымі й непасрэднага ўплыву на ўсе ейныя пастановы мець не маглі. Прадстаўнікі расейскіх арганізацыяў і «нацыяналы» мелі тады да некаторай меры разьвязаныя рукі й поўную свабоду дзеяньня. Таму было цікава, ці пасьля заканчэньня канфэрэнцыі Амэрыканскі Камітэт будзе ўважаць свае заданьні стварэньня супольнага антыбальшавіцкага цэнтру за выкананыя і ў форме КЦАБ-у захоча бачыць запраўдную дэмакратычную міжнацыянальную арганізацыю падсавецкіх народаў, здольную да канкрэтнага дзеяньня, ці, наадварот, аб'ектыўна ацаніўшы сытуацыю, закваліфікуе яго гэтак, як кваліфікуем і мы, ды будзе шукаць далейшых спосабаў разьвязаньня гэтага ўзапраўды заблытанага самім-жа Амэрыканскім Камітэтам пытаньня.

На выясьненьне доўга чакаць ня прыйшлося. Ужо 31 кастрычніка сёлета паявілася й было разасланае прэсе «Паведамленьне Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня Народаў Расеі», у якім было сказана, што **«Праграма новага Каардынацыйнага Цэнтру, на думку Амэрыканскага Камітэту, поўнасьцю адказвае практычным патрэбам вызвольнага змаганьня; яна стварае тыя рамкі, у якіх усе, што шчыра імкнуцца да супрацоўніцтва, могуць знайсьці аснову для дружнай супольнай працы. Адмірал асабліва адобрыў тую часьць паведамленьня Цэнтру, у якой прадугледжваецца стварэньне «больш шырокага й больш згуртаванага антыбальшавіцкага фронту».** Апрача гэтага старшыня Амэрыканскага Камітэту адмірал Стывэнс заявіў у гэным «Паведамленьні» ад сябе асабіста: **«Прынятая плятформа адкрывае дзьверы для многіх другіх прадстаўнікоў эміграцыйных арганізацыяў розных палітычных кірункаў і ня ставіць ніякіх перашкодаў для прылучэньня да яе як расейскіх, гэтак і нацыянальных групаў, якія згаджаюцца на прынцып самавызначэньня без прадрашэнства».** З усяго гэтага Амэрыканскі Камітэт у заканчэньні робіць наступны вывад: **«Таму Камітэт уважае стварэньне Цэнтру падзеяй, адзінай у сваім родзе за ўсе доўгія й цяжкія гады гісторыі расейскай эміграцыі і эміграцыяў другіх нацыянальнасьцяў».**

З гэтага выглядае, што Амэрыканскі Камітэт пайшоў па найменшай лініі су-

(Заканчэньне на 2 балоне)

# Весткі з шырокага сьвету

**Паварот Айзэнгаўэра з Карэі.** Амэрыканская армія паведаміла 5 сьнежаня, што новавыбраны амэрыканскі прэзыдэнт Д. Айзэнгаўэр закончыў 5. 12. 52 свае трохдзённыя адведзіны ў Карэі, якія былі трыманыя ў вялікай тайніцы. Перад апушчэньнем Карэі на пытаньне, ці і якія бачыць ён магчымасьці хуткага заканчэньня вайны, Айзэнгаўэр асьветчыў, што можна будзе зрабіць шмат для направы сытуацыі ў Карэі й што гэта будзе зроблена. Айзэнгаўэр цяпер адбывае канфэрэнцыі з сваімі бліжэйшымі супрацоўнікамі, каб абгаварыць здабытыя падчас адведзінаў дасьветчаньні і ўстанавіць галоўныя лініі будучай палітыкі ў дачыненьні да Карэі. У ягоным таварыстве ў Карэі знаходзіліся шэф супольнага генэральнага штабу амэрыканскіх збройных сілаў ген. Брэдлі, будучы міністар абароны Вільсон, будучы міністар юстыцыі Браўнэль, камандуючы амэрыканскай ціхаакіянскай флётай адмірал Рэджорд і абодвы амэрыканскія галоўнакамандуючыя на Далёкім Усходзе ген. Клярк і ген. Фліт. На Карэі Айзэнгаўэру быў прыдзелены ад'ютантам ягоны сын, маёр Джон Айзэнгаўэр, які служыць на карэйскім фроньце ў штабе 3-яй амэрыканскай пяхотнай дывізыі.

**Ратыфікацыя бонскім парлямантам абодвых дагавораў.** Пасьля чатырохдзённых гарачых спрэчак, 6 сьнежаня заходнянямецкі парлямант у Бонн бальшынёй 218 супраць 164 галасоў ратыфікаваў у другім чытаньні генэральны дагавор Заходняй Нямеччыны з трымя вялікадзяржавамі Захаду й дагавор аб прыступленьні Заходняй Нямеччыны да эўрапэйскай сыстэмы абароны. Прапанова Нямецкай Партыі (ДП) правесьці адначасна другое й трэйцяе чытаньне законаў аб дагаворы была вялікай бальшынёй адкінутая, так як і сам канцлер Адэнаўэр, ня будучы ўпэўненым у пазытыўным выніку галасаваньня, стараўся апошняе чытаньне адлажыць на пачатак студзеня 1953 году. За ратыфікацыяй галасавалі партыі ўрадавай кааліцыі й Баварская партыя, а супраць — сацыял-дэмакраты (СПД), цэнтр, камуністыя, часьць беспартыйных дэпутатаў і мяншыня дэлегатаў Вольнай Нямецкай партыі (ФДП).

**Вырашальны бой за Індакітай.** Ад 1-га сьнежаня трывае зацяты бой за крэпасьць Назам — найважнейшы абаронны пункт французаў у паўночна-заходнім Індакітаі. Трымя даборнымі дывізыямі нападаюць камуністычныя войскі Ветміну на акружаны горад, адзіным забясьпячальным пунктам якога зьяўляецца адно лётнішча Назаму. Страты камуністых за першыя тры дні бою выносяць 5.000 чалавек. У гэтым баі камуністычны правадыр Ветміну Го-Чы-Мін, пасьля шасьці год партызанскага змаганьня, першы раз выступіў у вадкрытым баі супраць французаў і войскаў Ветнаму. Прыпушчэньні паінфармаваных колаў, што ён атрымлівае ад чырвонага Кітаю й Савецкага Саюзу ваенную помач, цяпер пацьвердзіліся, калі французам удалося захапіць ад камуністых савецкія самаходы й зброю.

**Камуністычны Кітай і Паўночная Карэя адкінулі індыйскі плян.** Пасьля амаль цэламесячных дэбатаў ЗН над карэйскім пытаньнем быў прыняты бальшынёй 54 дзяржаваў супраць 5 дзяржаваў камуністычнага блёку й пры паўстрыманьні ад голасу нацыянальнага Кітаю індыйскі кампрамісовы плян вымены ваеннапалонных у Карэі, пра які мы інфармавалі ў папярэднім нумары. Адначасна быў адкінуты гэтымі-ж дзяржавамі супраць 5 дзяржаваў камуністычнага блёку плян савецкі, які дамагаўся прымусовай рэпатрыяцыі ваеннапалонных. Прыняты індыйскі плян мае на сяньня толькі сымбалічнае значэньне, бо чырвоны Кітай і Паўночная Карэя яго катэгарычна адкінулі.

**Чэхаславаччына выкідае ізраэльскага пасла.** Чэхаславацкі ўрад зажадаў 6 сьнежаня адкліканьня дасюлешняга пасла Ізраэля ў Праза Кубавага, які аб'яўлены «непажаданай асобай». Пасол Кубавы ўспамінаўся падчас паказовага працэсу ў Праза супраць Сланскага й 13 іншых вядучых камуністых Чэхаславаччыны.

**Чэхаславаччына была толькі пачаткам.** Заіснавала шмат сымптомаў аб тым, што вялікі паказовы працэс у Чэхаславаччыне распачаў сэрыю такіх-жа самых паказовых працэсаў у іншых краінах за зялезнай заслонай. З высказваньняў заступніка прэм'ер-міністра савецкай зоны Нямеччыны Гайнрыха Рава пацьвярджаюцца думкі заходнябэрлінскіх абсэрватараў, што там прыгатаўляецца вялікі паказовы працэс супраць былых высокіх партыйных функцыянэраў. На падставе радыёвых паведамленьняў, якія паступаюць з Варшавы й Букарэшту, можна быць амаль пэўным, што там таксама хутка распачнуцца паказовыя працэсы супраць былых камуністычных правадыроў, што папалі ў няласку. У Польшчы на лаве абвінавачаных мае засесьці былы віцэ-прэм'ер варшаўскага ўраду Гамулка, а ў Румыніі былы міністар замежных справаў Ганна Паўкэр.

**Паніка сярод жыдоў.** Пасьля праскага працэсу, у якім, апрача толькі аднаго славака, было абвінавачаных і засуджаных 13 жыдоў, выклікаў сярод жадоў за зялезнай заслонай, як і на Захадзе запраўдную паніку. Арганізацыі, што апякуюцца ўцекачамі ў заходнім Бэрліне, прыгатаўляюцца да прыняцьця значнага наплыву жыдоў з за зялезнай заслоны. Адначасна ўрад Ізраэля зьбірае фонды для новых уцекачоў і арганізуе тайныя шляхі ўцёкаў на ўзор тых, якімі жыды ўцякалі з пад гітлераўскай акупацыі. Сьцьверджана, што высокія становішчы ў тайнай паліцыі Ўсходняй Нямеччыны абсаджваюцца былымі эсэсаўцамі, якія за часоў Гітлера адзначыліся баёвым антысэмітызмам, а цяпер прыгатаўляюцца ўзноў да перасьледваньня жыдоў, гэтым разам у імя камунізму.

**Назначэньне 24 кардыналаў.** Папа Пій XII назначыў 24 новых кардыналаў і гэтым самым дапоўніў Сьвятую Калегію Кардыналаў, якая цяпер складаецца з 70 сяброў. У цяперашняй Сьвятой Калегіі, побач із 27 італьянцамі, знаходзяцца 43 чужынцы ў гэтай найвышэйшай установе каталіцкага касьцёла, паймена: сем французаў, чатыры амэрыканцы, чатыры гішпанцы, тры бразылійцы, двух немцаў, двух канадыйцаў, двух аргентынцаў і двух кардыналаў з Блізкага Ўсходу. Аўстралія, Бэльгія, Чылі, Кітай, Эквадар, Вялікабрытанія, Галяндыя, Ірляндыя, Югаславія, Калюмбія, Куба, Аўстрыя, Партугалія, Партугальская Афрыка, Пэру, Польшча і Мадзяршчына маюць па аднаму кардыналу. Паміж нованазначанымі кардыналамі знаходзіцца арцыбіскуп Загрэбу Стэпінац, які быў цітаўскім рэжымам засуджаны на 16 год зьняволеньня, і арцыбіскуп Гнезна й Варшавы Вышынскі.

**Калючы дрот перад уцекачамі ў заходні Бэрлін.** 1.000 уцекачоў з Усходняй Нямеччыны прыбывае штодзённа ў заходні Бэрлін, сярод якіх, ад часу распачацьця калектывізацыі, па 150 у сярэднім бывае сялян. У сувязі з гэтым усходня-нямецкая паліцыя будуе двумэтравыя загараджэньні з калючага дроту на граніцы між Усходняй Нямеччынай і заходнім Бэрлінам.

**Францускі білянс у Індакітаі.** Паводля паведамленьня францускага міністэрства абароны францускія страты забітымі й прапаўшымі бязь вестак выносяць у Індакітаі ад пачатку вайны да кастрычніка г. г. 28.246 ахвіцэраў, падахвіцэраў і жаўнераў, апрача гэтага, страты ветнамцаў, якія змагаюцца на баку французаў, выносяць 21.150 чалавек. Гэтая статыстыка падае, што францускія збройныя сілы ў Індакітаі складаюцца з 212.553 чалавек, зь якіх зьяўляюцца французамі 82.000 чалавек улучна з 3.150 ахвіцэрамі й 30.732 падахвіцэрамі. Рэшта складаецца з чужынецкага лёгіёну, сэнэгальцаў, паўночнаафрыканцаў і іншых каляніяльных аддзелаў. Страты адных ахвіцэраў выносяць 1.432. Для выраўнаньня гэтых стратаў колькасьць вучняў ваеннай школы ў Сан Сір з 440 ў 1950 г. была павялічаная ў бягучым годзе да 840.

**Савецкія маячаньні аб апанаваньні месяца.** На месяцы будзе павяваць савецкі чырвоны сьцяг. Штучныя месяцы будуць кажнага дня абарачвацца шэсьць разоў навакол зямлі і кажны будзе абазначаны чырвонай зьвяздой. Усё гэта на працягу 50 год станецца запраўднасьцю, — піша нейкі А. Штэрнфэльд ў вапошнім нумары журналу «Аганёк». Далей, паводля буйнай фантазыі савецкага журналу, будзе сканструаваная штучная плянэта на вышыні 280 кілямэтраў, якая будзе мець шыбкасьць 7,75 клм. у сэкунду, робячы абарот вакол зямлі па эліпсе ў 13.228 клм. у разрэзе. У Калузе будзе збудаваны «Космодром», зь якога будуць стартаваць ракетныя міжплянэтныя самалёты і за 5 дзён будуць даяжджаць да месяца й назад.

**Чытачы не заўважылі.** Амэрыканская газэта «Вэнкувэр Сан» тры дні падрад друкавала на першай балоне тую самую справаздачу з Карэі, каб пераканацца, ці паведамленьні з карэйскай вайны наагул чытаюцца. На чацьвёрты дзень газэта паведаміла, што ніводзін з 500.000 чытачоў газэты ні тэлефанічна ні пісьменна не зьвярнуў Рэдакцыі ўвагі на ейную «памылку».

# *Кажны па аднаму падпішчыку*

**Нацыянальная прэса заўсёды адыгрывала вялізарную ролю ў працэсе беларускага нацыянальна-вызвольнага руху. Яна заўсёды будзіла нацыянальнае сумленьне й падымала народ на змаганьне за ягоную вызвольную ідэю. Але ў умовах эміграцыі, дзе нашыя суродзічы зьяўляюцца раськіданымі амаль па ўсіх краінах вольнага сьвету і змушаныя жыць сярод чужога асяродзьдзя, будучы часамі поўнасьцю нацыянальна ізаляванымі, роля й значэньне роднага друкаванага слова зьяўляюцца яшчэ большымі. Тут нашая прэса для закінутых на далёкую чужыну суродзічаў ня рэдка зьяўляецца адзіным фактарам, які іх лучыць з усей астальной эміграцыяй, прыносіць ім найсьвяжэйшыя весткі зь беларускага нацыянальнага жыцьця й дзейнасьці на чужыне, весткі з паняволенай Бацькаўшчыны, узмацняе іх на духу, гартуе веру ў лепшую будучыню й гэтым самым бароніць іх ад нацыянальнай сьмерці.**

**На жаль, як паказала практыка мінаючага 1952 году, далёка ня ўсе беларускія эмігранты былі ахопленыя беларускай прэсай, далёка ня ўсе яе атрымлівалі й чыталі, а многія навет зусім ня ведалі аб ейным існаваньні.**

**Віна за такі стан рэчаў у першую чаргу ляжыць на нас, сьведамых, зарганізаваных і нацыянальна актыўных беларускіх эмігрантах. Мусім адкрыта прызнацца, што мы за мала рупімся аб пашырэньні беларускае прэсы й ахапленьні ей па магчымасьці як найбольшае колькасьці беларускай эміграцыі. Мы не дацэньваем вялізарнай ролі беларускага друкаванага слова ў умовах эміграцыйнай расьцярушанасьці. Нам сталася ведамым, што прадстаўніцтвы «Бацькаўшчыны» ў некаторых краінах рассылаюць цяпер, у канцы сёлетняга году, колькасьць эгзэмпляраў «Бацькаўшчыны» тую самую, што й на пачатку году.**

**З такімі нашымі абыякавымі дачыненьнямі да нашае прэсы мы павінны раз назаўсёды пакончыць. Таму, заканчваючы 1952 год і хутка ўваходзячы ў новы 1953 год, мы горача апэлюем у першую чаргу да ўсіх беларускіх нацыянальных арганізацыяў ува ўсіх краінах пасяленьня беларусаў, да ўсіх нацыянальна актыўных беларусаў, а таксама да ўсіх дасюлешніх падпішчыкаў і чытачоў «Бацькаўшчыны» безадкладна правесьці энэргічную акцыю, каб з пачаткам 1953 году «Бацькаўшчына» сталася сталым і жаданым госьцем у кажнага беларускага эміграната, каб ейны, дагэтуль сьціплы, наклад падвоіўся і патроіўся. Гэта ў вялізарнай меры спрычыніцца да павышэньня нашай нацыянальнай актыўнасьці й адпорнасьці супраць загрозы асыміляцыі, з другога боку — забясьпечыць сталае рэгулярнае выдаваньне й далейшае праспэраваньне нашае газэты. Таму мы кідаем лёзунг: кажны дасюлешні падпішчык і чытач «Бацькаўшчыны» павінен з пачаткам 1953 году прыдбаць прынамсі аднаго новага падпішчыка! Няхай кажны з нас прыме гэты прызыў за свой нацыянальны абавязак, за элемэнтарнае заданьне сваей чэсьці! Гэта выканаць так лёгка, а вынікі такой акцыі, калі яна будзе даслоўна ўсімі праведзеная, будуць узапраўды вялікія.**

**Апрача рэгулярнага выдаваньня нашага тыднёвіка зь ягоным месячным дадаткам для дзяцей «Каласкі», Рэдакцыя паставіла сабе за заданьне ў меру магчымасьцяў выдаваць найбольш патрэбныя з нацыянальнага гледзішча творы беларускае прыгожае літаратуры. Гэтак на працягу бягучага году Рэдакцыі ўдалося прыгожа выдаць адзін з выдатнейшых твораў нашае літаратуры — вялікую паэму Якуба Коласа «Новую Зямлю». У студзені наступнага году выйдзе ў сьвет у выданьні «Бацькаўшчыны» найвыдатнейшая драма Янкі Купалы «Раськіданае Гняздо». Таксама і ў далейшым на балонах «Бацькаўшчыны» будуць перадрукоўвацца найлепшыя творы беларускае літаратуры, як і ўпрыўшныю будуць друкавацца творы сучасных беларускіх эміграцыйных пісьменнікаў, якія пазьней будуць паяўляцца асобнымі кніжкамі. Гэтак важная вы-**

(Заканчэньне на 2 балоне)

# Няма антыбальшавіцкага цэнтру

(Заканчэньне)

працiву й выбраў першую эвэнтуальнасьць: вызнаў КЦАБ за заправдны антыбальшавіцкі цэнтр, які справядліва разьвязвае, паводля словаў ягонага «Паведамленьня», узаемадачыненьні паміж расейцамі й нерасейскімі народамі ды будзе здольны ня толькі існаваць далей, але й апраўдаць пакладаныя на яго надзеі.

Ня ведаем, ці вышэй прыведзеныя словы Амэрыканскага Камітэту й ягонага старшыні адмірала Стывэнса ёсьць шчырымі, ці зьяўляюцца толькі падыктаванымі патрэбамі сяньняшняй палітыкі Амэрыканскага Камітэту, шуканьнем нейкага выхаду із створанага ім-жа бязвыхаднага палажэньня згодна ведамай прыказкі, што на бязрыб'і і рак рыба. Але незалежна ад таго, якімі матывамі кіраваўся ў дадзеным выпадку Амэрыканскі Камітэт, ня трэба быць асабліва прадбачлівым, каб упэўніцца, што КЦАБ, паміма навет найвялікшых намаганьняў амэрыканцаў, не патрапіць вытрымаць жыцьцёвай пробы, не гаворачы ўжо аб якой-небудзь пазытыўнай дзейнасьці й здабыцьця даверу сярод нерасейскіх народаў. Ягоная палітычная плятформа, якая, паводля адмірала Стывэнса, «адкрывае дзьверы для многіх другіх прадстаўнікоў эміграцыйных арганізацыяў розных палітычных кірункаў і ня ставіць ніякіх перашкодаў для прылучэньня як расейскіх, гэтак і нацыянальных групаў», на жаль, на глуха закрывае дзьверы для аўтарытэтных і рэпрэзэнтатыўных прадстаўнікоў нерасейскіх народаў. Гаворачы-ж адваротнае, адмірал Стывэнс, відаць, хацеў зьдзекліва падсьмяяцца над і так трагічным палажэньнем паняволеных расейскім бальшавізмам народаў.

Апрача гэтага, у КЦАБ-е няма прадстаўнікоў найбольшых і нацыянальна найбольш актыўных народаў СССР — украінцаў і беларусаў, ды й няма ніякай надзеі, што яны хутка там знойдуцца пры цяперашняй палітычнай плятформе й арганізацыйнай структуры КЦАБ-у. На іншым месцы мы інфармуем аб перагаворах украінцаў з Амэрыканскім Камітэтам у справе ўдзелу ў КЦАБ-е. Мы ня ведаем, чым гэныя перагаворы скончацца. Але маем многа падставаў спадзявацца, што ніводная аўтарытэтная ўкраінская група ня зможа вызнаць палітычнай праграмы КЦАБ-у й згадзіцца на ягонае поўнае манапалізаваньне расейцамі, загарантаванае ім статутам. Падобна прадстаўляецца справа і ў беларусаў. З гэтае самае прычыны ня мог уступіць у КЦАБ, паміма свайго шчырага жаданьня, і Беларускі Антыбальшавіцкі Фронт. Дык дзеля паказаньня, што й гэтыя нацыянальнасьці прыймаюць удзел у КЦАБ-е, астаецца тады ўцягнуць у яго існуючыя фікцыйныя апартуністычныя арганізацыі гэтых народаў, агульна байкатаваныя іхнімі эміграцыямі, або стварыць падобныя да іх новыя фікцыі. Але прыкрываць адну фікцыю новымі фікцыямі яшчэ больш аслабіць і так не вялікі аўтарытэт КЦАБ-у, бо для нікога, у тым ліку й для Амэрыканскага Камітэту, не зьяўляецца ніякім сакрэтам, што цяперашнія туркестанскія й каўказкія сябры КЦАБ-у — гэта ў бальшыні сваей такія-ж фікцыі безадказных апартуністых, якія ў сваіх грамадзянствах ніякага ўплыву ня маюць і паважна імі не трактуюцца.

Таму сяньняшняе палажэньне Амэрыканскага Камітэту ўзапраўды незавіднае. Ня гледзячы на ягоныя сяньняшнія аптымістычныя заявы з нагоды стварэньня КЦАБ-у, само жыцьцё раней ці пазьней змусіць яго паддаць грунтоўнай рэвізіі ягоную дасюлешнюю палітычную лінію й шукаць радыкальнага выхаду із створанага ягонай русафільскай палітыкай бязвыхаднага палажэньня.

### А ВЫХАД МОЖА БЫЦЬ ЗНОЙДЗЕНЫ

Малады ўкраінскі публіцысты й палітычны дзеяч з колаў УНРады М. Васкабійнык у газэце «Украінскі Вісті» за 16 лістапада сёлета надрукаваў артыкул «Роўнасьць народаў — аснова антыкамуністычнага змаганьня», у якім, прааналізаваўшы палітычную плятформу й арганізацыйную структуру КЦАБ-у ды сьцьвердзіўшы на падставе тых самых, што і мы, прычынаў ягоную поўную няпрыгоднасьць для нерасейскіх народаў, падаў два наступныя, як «адзіна прынятлівыя», спосабы арганізацыі антыбальшавіцкіх сілаў:

**«Першы: Уключэньне Украіны, Беларусі й інш. у Камітэт Вольнай Эўропы.** Хаця-бы й на тэй падставе, што Украіна й Беларусь — сябры Задзіночаных Нацыяў і фактычна зь юрыдычнага гледзішча мала чым адрозьніваюцца ад дамініёнаў Брытанскай кароны, а з фактычнага мала чым адрозьніваюцца ад краінаў сатэлітных. На гэтай падставе іншыя рэспублікі ня могуць быць трактаванымі ў рамках нутранай расейскай праблемы. У такім стане (за вынятакм сяброўства ў ЗН) перабываюць і іншыя народы, якія цяпер зьяўляюцца саюзнымі рэспублікамі СССР, і яны мелі-б быць таксама трактаваныя, як краіны, што ў арганізацыі антыкамуністычных сілаў ня мусілі-б быць падпарадкаваныя расейцам, а павінны-б быць раўнапраўнымі. Таму яны таксама маюць права дамагацца пашырэньня рамак Камітэту Вольнай Эўропы і на іншыя ўсходне-эўрапэйскія народы.

**Другая магчымасьць — стварэньне асобнага Амэрыканскага Камітэту для маральнай і матарыяльнай дапамогі змаганьню акупаваных нерасейскіх народаў СССР і арганізацыі зь іх саюзных антыкамуністычных сілаў на асновах роўнасьці».**

Апрабуючы із свайго боку абедзьве гэтыя прапановы (дарэчы зацемім, што апошнюю з гэтых прапановаў яшчэ перад «Украінскімі Вістямі» высунуў ворган ЗП УГВР — «Сучасна Україна»), як адказваючыя і нашаму становішчу, мы хочам пры гэтай нагодзе прыпомніць і нашую собскую, найдалей ідучую прапанову, якую мы выказалі ў нашым артыкуле «Дык дзе-ж тады вхад?», зьмешчаным у нумары 41 «Бацькаўшчыны» за 12 кастрычніка сёлета.

У гэным артыкуле мы зьвярнулі ўвагу на тое, што няўступлівае й бескампраміснае адзінанедзялімаўскае становішча расейцаў у мантаваньні супольнага цэнтру выплывае ня толькі зь імпэрыялістычнай традыцыйнай палітыкі Расеі, але й мае сваё апорышча ў самых амэрыканцаў, паймення ў тым, што такую палітыку амэрыканцы сяньня выразна падтрымліваюць і апрабоўваюць усе адзінанедзялімаўскія й «парытэтныя» капрысы расейцаў у КЦАБ-е. Таму што такая палітыка, ідучая ў разрэз з прыроднымі імкненьнямі нерасейскіх народаў СССР, што складаюць больш палавіны насельніцтва савецкай імпэрыі й зьяўляюцца ўвесь час найбольш актыўнымі ў антыбальшавіцкім змаганьні, раней ці пазьней мусіць збанкрутаваць, мы высунулі думку, што тварэньне Амэрыканскім Камітэтам антыбальшавіцкага цэнтру у самой аснове было ўжо хвальшывым і да нічога саліднейшага, як да КЦАБ-у прывесьці не магло. На наш погляд можна і трэба зьмяніць гэныя асновы ў тым сэнсе, што, замест апірацца на рэакцыйныя, шавіністычныя й імпэрыялістычныя расейскія палітычныя колы на эміграцыі, хоць і называныя для ўспакаеньня сумленьня «дэмакратычнымі», абапёрціся на расейскія ўзапраўды дэмакратычныя сілы, якія напэўна знайшліся-б у выпадку іншага палітычнага курсу самых амэрыканцаў. Мы здаём сабе справу з таго, што гэтая нашая канцэпцыя ў вабліччы сучаснай амэрыканскай палітыкі можа мець толькі тэарэтычную вартасьць, бо няма надзеі, каб Амэрыка адважылася ўжо сяньня стаць на такую плятформу, але, з другога боку — такое разьвязаньне гэтае праблемы было-б адзіна правільным, трывальным, пазытыўным і для будучыні збаўленным.

У кажным выпадку выхад зь сяньняшняга глухога завулку, у які закацілася акцыя Амэрыканскага Камітэту, можа быць знойдзены, і мы надзімся, што ён знойдзены будзе. У нашай галаве проста ня месьціцца думка, каб амэрыканскія палітычныя колы пайшлі за прыкладам «фюрэрскай» практыкі Гітлера зь ягоным Уласаўскім «Камітэтам Вызваленьня Народаў Расеі», які, навет у ўмовах таталітарнага рэжыму й ваеннага часу, ня змог зьмантаваць вакол сябе антыбальшавіцкіх сілаў нерасейскіх народаў, ня гледзячы на магчымасьць далёка пасунутага ціску з боку нямецкіх уладаў і на тое, што ціск гэты ўзапраўдасьці быў. Ды, апрача таго, што было да твару Гітлеру, зусім не адказвае салідносьці й годнасьці дэмакратычнага грамадзянства Амэрыкі, не гаворачы ўжо аб нявымоўнай крыўдзе, якая робіцца Амэрыканскім Камітэтам паняволеным бальшавізмам нерасейскім народам.

Нерасейскія народы Савецкага Саюзу на працягу ўсяго існаваньня бальшавізму вялі зь ім станоўкае й бескампраміснае змаганьне, не шкадавалі вялізарных ахвяраў, якія яно прагльнала і, ня ў прыклад расейцам, выставілі сабе атэстат няпрымірлівых ягоных ворагаў. Яны і ў канчатковай фазе антыбальшавіцкага змаганьня, якая вырашыць, за кім астанецца перамога, бясспрэчна адыграюць галоўную ролю. Таму яны, народы гэтыя, маюць поўнае права патрабаваць ад амэрыканскіх колаў прынамсі роўнага з расейцамі трактаваньня, маюць права патрабаваць належнае ім палітычнае й матарыяльнае помачы ў іхнай антыбальшавіцкай вызвольнай акцыі.

Язэп Каранеўскі

# Украінцы й КЦАБ

Ня гледзячы на тое, што г. зв. Каардынацыйны Цэнтр Антыбальшавіцкай Барацьбы, у скарочаньні КЦАБ, як у сваей арганізацыйнай структуры, гэтак і палітычных прынцыпах, зафіксаваных у ягоным статуце, зьяўляецца арганізацыяй, якая загарантоўвае ўпрывілеяванае становішча ў ей для расейцаў і зьяўляецца выразна накіраванай на аднаўленьне адзінай і непадзельнай расейскай імпэрыі, украінскія палітычныя колы на эміграцыі вядуць ужо ад даўжэйшага часу сур'ёзныя перагаворы з Амэрыканскім Камітэтам Вызваленьня Народаў Расеі ў справе іхнага прыступленьня да КЦАБ-у. Гэтыя перагаворы з украінскага боку вядуцца Украінскім Кангрэсовым Камітэтам (УКК) ў ЗША, а так-жа Ўкраінскай Нацыянальнай Радай (адпаведнік нашай Рады БНР) у ЗША і Эўропе за пасярэдніцтвам УКК, як і незалежна ад яго.

З мэтаю схіліць украінскія палітычныя арганізацыі ў Эўропе да ўваходу ў КЦАБ УКК пастанавіў выслаць у Эўропу спэцыяльную дэлегацыю, якая, як паведамляюць «Украінскі Вісті» за 4. 12. 52, мае правесьці нарады з 12-цю ўкраінскімі палітычнымі арганізацыямі, аб чым УКК паведаміў спэцыяльным пісьмом старшыню выканаўчага воргану УНРады др. С. Барана. Сябра гэтай дэлегацыі Ўладзімір Душнік меў ужо 4 сьнежаня сёлета прыбыць у Мюнхэн, а астальныя дэлегаты — старшыня УКК праф. Леў Дабранскі, Галічын і дзелавы кіраўнік УКК адвакат Ярэма мелі прыбыць тыдзень пазьней пасьля Душніка.

Каб захаваць як найбольшую аб'ектыўнасьць ды ўсьцерагчыся няправільных здагадак, мы паінфармуем нашых чытачоў аб украінскіх спробах знайсьці супольную мову з расейцамі на падставе высказваньняў украінскай прэсы й афіцыяльнага камунікату УКК, выдадзенага ім у гэтай справе яшчэ 31 кастрычніка сёлета, але толькі цяпер апублікаванага ў украінскай прэсе.

З гэтага камунікату між іншым даведваемся: «Ад даўжэйшага часу, бо яшчэ із студзеня 1952 году, зь ініцыятывы й на прапазыцыю Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня Народаў Расеі, пачаліся перагаворы між гэтым Камітэтам і старшынёю УКК, праф. Львом Дабранскім, у справе супрацоўніцтва Ўкраін-

(Заканчэньне на 3 балоне)

# Кажны па аднаму падпішчыку

(Заканчэньне)

**давецкая акцыя будзе разьвівацца ў тым толькі выпадку, калі існаваньне самой газэты будзе належна забясьпечанае шляхам прыдбаньня для яе як найбольшай колькасьці падпішчыкаў.**

**Мы хочам верыць, што ўсе нашыя нацыянальныя арганізацыі, усе нацыянальна актыўныя беларусы, усе чытачы й падпішчыкі «Бацькаўшчыны» ў Ангельшчыне, Францыі, Бэльгіі, Нямеччыне, у Задзіночаных Штатах Амэрыкі, Канадзе, Аргентыне, Аўстраліі й іншых бліжэйшых і далейшых краінах належна зразумеюць гэты наш заклік, прыймуць яго да сэрца й зробяць усё магчымае й патрэбнае, каб «Бацькаўшчына» знайшла сабе дарогу да ўсіх тых нашых суродзічаў, якія дагэтуль яе не атрымлівалі. Дык кажны з дасюлешніх чытачоў і падпішчыкаў «Бацькаўшчыны» няхай прыдбае з пачаткам 1953 году найменш аднаго новага падпішчыка!**

Рэдакцыя

ЯНКА КУПАЛА 5)

# Раськіданае Гняздо

## ДРАМА у 5-ех АКТАХ

### АКТ ТРЭЦІ

### ЗЬЯВА І

МАРЫЛЯ — адна

МАРЫЛЯ. (Сядзіць і шые торбу). Ох! ох! Ня судзіла долячка скарыстаць з свайго дабрыцца, як усе добрыя людзі карыстаюць! Падумаць толькі! Добры быў лянок; палола яго, рвала, слала, а як улежыўся — сушыла, мяла, у дваіх з Зоськай нітачку па нітачцы вывелі . . . Па грамніцах кросны паставіла . . . колькі сьценак наткала . . . На кашулі сабе, нябошчыку й дзеткам ткала. Звалілася бяда, і ўсё пайшло марна: заместа кашуль — торбы шыю. Эх! эх! Сабе і дзецям — жабрацкія торбы. (Задумаваецца).

### ЗЬЯВА II

МАРЫЛЯ — ЗОСЬКА — ДЗЕЦІ

ЗОСЬКА. (Уходзе з пукам васількоў, за ёй — дзеці). А ты ўсё шыеш, мамка? Кіньце! . . . Жудка мне становіцца ад гэтага твайго шыцьця. Мне здаецца, што ты нам усім жывым яшчэ сьмяротныя сарочкі шыеш. Кіньце, мамка, гэтую сваю няшчасную работу! (Садзіцца і ўе вянок, каля яе — дзеці).

МАРЫЛЯ. (Пры ўходзе Зоські далей шые). Гэ, мая родненькая! А хто будзе шыць? Ты, можа? Што-ж мяне, цябе, (паказваючы на дзяцей) іх, усіх нас чакае? Што? А пашыць трэба шмат, ох, як шмат гэтых сховаў на крошкі ад людзкога стала! Старац, каторы, ў нас тады — помніш? — казаў, што чым больш на жабраку торбаў, тым лепш такога дораць. Няпраўда, можа скажаш? Га?

ЗОСЬКА. Мы яшчэ не жабракі, мамка!

МАРЫЛЯ. Але не сяганьня, то заўтра, пазаўтра будзем імі. Такая ўжо, відаць, нашага брата доля і нам ня мінуць гэтага. Падумай толькі! Сымон разьюшыўся і думаць ня хоча, каб даваць якую раду ў гэтым бяспрыпыньні — усё суду нейкага чакае. А ты, а ты толькі яшчэ смалы падліваеш у гэты агонь, адкуль усе нашы няшчасьці ідуць.

ЗОСЬКА. Мамка! Я толькі хачу гэта няшчасьце на шчасьце замяніць.

МАРЫЛЯ. І ўсё што раз большую пропасьць капаеш між імі і намі, у каторую ніхто іншы, а ты, усе мы ўвалімся і ня вылезем ніколі, як зь вечнага балота. Эх! эх! Абое вы, дзеткі, пропасьць гэту самі сабе капаеце абое: Сымон — сваёй дзікай заўзятасьцю, а ты — сваёй шалёнай прыхільнасьцю. Бацькі нашы іначай жылі!

ЗОСЬКА. Але, але, мамачка — іначай! . . . Затое-ж вось і торбачкі ты гэтыя шыеш ды на мяне з Сымонам наракаеш.

МАРЫЛЯ. (Ня слухаючы). Губіце вы сябе, мяне, гэтых малых. Моцны мой Божа! Адно зьверам глядзіць на ўсё і волі нікому ніякае не дае, а другое няславу на ўсю радню ўзводзе.

ЗОСЬКА. Мамачка! Што ты да мяне маеш? Я ратаваць усіх хачу, хоць мо' і гіну сама. Ды па чым я знаю, што са мной творыцца? Можа нехта нейкія чары неразгаданыя над намі ўсімі завесіў, і мяне, пасьля таты, выбраў сабе за першую ахвяру? Па чым я знаю? Ня думайце, мамачка, што я такая, як табе й Сымону здаецца. Але што-ж? У вас свая праўда, у мяне свая. Жыцьцё сваё кросны жалобныя тчэ і будзе ткаць, пакуль яму самі людзі не дадуць асновы зь вечнай праўды і братняга мілаваньня, а ўтоку — зь вечнай шчасьлівасьці і радасьці.

МАРЫЛЯ. Э, пачала ўжо плот гарадзіць, каб за ім з сваім бясоромствам схавацца! Сказала-бы адразу, што прадалася ў злыдневы рукі самахоць і ўсё тут табе! Але не! Трэба яшчэ ўсялякай брахнёй мазгі другім марочыць. Маткі, мая родненькая, не ашукаеш.

ЗОСЬКА. Ты, мамка, сама сябе ашукаваеш, гэтак думаючы. Усе людзі самі сябе ашукаваюць, а ім здаецца, што хто другі таму прычынай. Але кіньма ляпей, мамка, гэту спрэчку! . . . Гляньце — якое прыгожае неба на захадзе! Там, на гэтым небе мы калісь жыць будзем. І ня будзе там ні такое хаты разваленае, ні людзей такіх нягодных: будзе там адзін вялікі дом для ўсіх чыста, а ў ім будуць жыць і іншыя людзі, як тут на зямлі, — будуць усе паміж сабой браткі ды сястрыцы родныя. Праўда, мамка!

МАРЫЛЯ. Але пакуль табе прыдзе пара туды йсьці, я цябе і твайго гэтага пракляну сваім матчыным словам.

ЗОСЬКА. (Сашчэпляваючы рукі). Мамачка! Што хочаце рабеце са мною, толькі яго не чапайце: ён Богу душой вінен, як і я ні ў чым благім ня вінна. Усё гэта няпраўда.

МАРЫЛЯ. А чаму прысягаць не хацела? Га?

ЗОСЬКА. Бо . . . бо я ня ведала і ня ведаю, што праўда, а што няпраўда, і што грэх, а што ня грэх?

МАРЫЛЯ. То ён чаму сказаў: «позна, цётка!»

ЗОСЬКА. Бо і ён таксама нічога ня ведае. (Уходзіць Сымон і Данілка, нясуць з сабой па куску дрэва на крыж і кладуць пасярод сцэны).

### ЗЬЯВА III

ТЫЯ-Ж і СЫМОН — ДАНІЛКА

ДАНІЛКА. (Кінуўшы палена). Бяда мне з гэтым Сымонам! У мяне свае работы гібель, а тут памагай яшчэ яму крыж рабіць. (Садзіцца й возіцца з іскрыпкай).

СЫМОН. (Кінуўшы палена на-крыж Данілкаваму. Панура). Тую рабіну сьсек, на каторай бацька . . . Ёмкі будзе крыж. З большага абчасалі і запілавалі з Данілкам, асталося толькі трохі агладзіць і ўсё будзе гатова. Ці ня бачылі дзе струга?

ЗОСЬКА. (Устаючы). Я недзе, братка, яго бачыла. Зараз знайду! (Находзе струг і аддае Сымону). Можа што памагчы табе?

СЫМОН. (Стругаючы крыж, стаўшы на каленях). Нічога ня трэба! Бачу, што часу ня маеш: вяночак пляцеш, завіваеш. Дык пляці, завівай, як добрыя людзі адны другім вяровачкі плятуць, завіваюць!

ЗОСЬКА. (Садзіцца і ўе вянок, у старану). Мамка проці мяне, брат проці мяне, а хто-ж за мяне заступіцца?

ДАНІЛКА. Вось як пайшла ў нас сяганьня работа! Зоська вянок уе, Сымон крыж робе, мамка торбачкі шые, а я іскрыпачку раблю. Дзівіцеся людзі!

МАРЫЛЯ. (Да Сымона). Пад вечар, як вас усіх тут ня было, прыходзіў ізноў той і казаў, каб дарма ня йшлі яму на перакор. Хату ў дварэ дае і цябе з Зоськай бярэ на службу.

СЫМОН. (Горача). Нічога ня трэба, нічога! Раз сказаў, каб мне аб гэтым і не ўспаміналі. Ласка іх да парога, толькі да парога. У вочы лістам сьцелецца, а як зыйшоў з воч, дык і з памяці проч! Ня трэба! Сам усяму рады дам! Адбудую хату нанова, гаспадарку нанова завяду. Жыцьцё пачнем новае. Вось толькі крыж паставіць і разбору дзела дачакацца! Ня там, у іх, а тут наша мейсца. Ніхто нас адгэтуль ня згоне і ня выстраша, каб хоць самога люцыпара на помач выклікаў. Спакон вякоў усё гэта наша было, ёсьць і будзе. Мы ня прыблуды якія. Мы ня маем права і кроку даць адгэтуль у тую старану. Хай яны к нам ідуць, а ня мы к ім!

ДАНІЛКА. Ня вытрываеш — пойдзеш!

СЫМОН. Так! Але! Можа і праўда, можа навет і пабягу (загадліва), але як і з чым? . . .

МАРЫЛЯ. Пакуль ты свайго дапнеш, што мы есьці будзем? Ні сам ня йдзеш нікуды ў заработкі, ні другім не пазваляеш. На мяне, матку тваю, і на гэтых малых ня маеш Бога ў сэрцы. Эх! Сымон, Сымон! Губіш ты сябе і нас усіх.

СЫМОН. Ня бойся, мамка! Ня згублю! А калі згінем мы, то цэлы сьвет аб гэтым даведаецца і праўда на верх выйдзе. Адно гора, што вы мне ўва ўсім пярэчыце: ты сваім заўсёдным нараканьнем, а яна, Зоська, сваёй к таму ліпкасьцю ў папярок дарогі мне станавіцёся і топчаце тое, што я хачу сеяць.

ЗОСЬКА. (Падходзе к Сымону і кладзе яму руку на плячо). Эх, мой ты братачка родны! Горды, непакорны чалавек зь цябе вышаў! Птушкаю — арлом быць-бы табе і лётаць па паднябесьсю, як лётае вецер гэты вольны! Толькі-ж бяда — крыльле ня дадзена табе, саколе ты мой

# Украінцы й КЦАБ

(Заканчэньне)

скага Кангрэсовага Камітэту Амэрыкі з Амэрыканскім Камітэтам на тэрыторыі ЗША і ў справе пасярэдніцтва УКК між Амэрыканскім Камітэтам Вызваленьня Народаў Расеі, ці зь ягонымі прадстаўніцтвамі на эўрапэйскай тэрыторыі, і ўкраінскай рэпрэзэнтацыяй у Эўропе».

Пра канкрэтныя перагаворы УКК з Амэрыканскім Камітэтам гаворыць наступны пункт камунікату: «Старшыня УКК, парф. Дабранскі, у ходзе перагавораў прадставіў Амэрыканскаму Камітэту рад важных дамаганьняў, выкананьне якіх Амэрыканскім Камітэтам умажлівіла-б практычнае супрацоўніцтва Украінскага Кангрэсовага Камітэту Амэрыкі і ўкраінскага палітычнага прадстаўніцтва ў Эўропе з Амэрыканскім Камітэтам. Між гэнымі дамаганьнямі былі, між іншымі: дамаганьне зьмены назвы самога Амэрыканскага Камітэту цераз усуненьне словаў «Народаў Расеі»; прымяненьне прынцыпу абсалютнага парытэту паміж усімі нацыянальнымі прадстаўніцтвамі ў плянаваным Каардынацыйным Камітэце; поўная свабода ўсіх нацыянальных прадстаўніцтваў, а, асабліва, нерасейскіх народаў, у іхнай палітычнай прапагандзе за прывярненьне ўтрачанай дзяржаўнай самастойнасьці; дапаўненьне Эгзэкутыўнай Рады Амэрыканскага Камітэту выдатнымі амэрыканцамі, якія ёсьць ведамыя із сваіх прыхільных дачыненьняў да спарвы вызвольных змаганьняў паняволеных нерасейскіх народаў СССР. Некаторыя з гэтых дамаганьняў праведзеныя; іншыя — зьяўляюцца прадметам далейшых перагавораў між старшынёю УКК й прадстаўнікамі Амэрыканскага Камітэту».

Далей з камунікату даведваемся, што пагляды на гэтую справу сяброў Рады Дырэктараў УКК, асабліва ў дачыненьні да палітычнай плятформы й арганізацыйнай структуры КЦАБ-у былі разьбежныя, таму Рада Дырэктараў УКК прыняла бальшынёй галасоў запрапанаваную праф. Дабранскім палітычную й арганізацыйную плятформу творанага ў Эўропе палітычнага цэнтру. Напасьледак камунікат засьцерагае для ўкраінскіх палітычных арганізацыяў, якія ўвайшлі-б у КЦАБ, права свабоднае дзейнасьці й прапаганды ў кірунку здабыцьця незалежнай украінскай дзяржавы. Аб гэтым у камунікаце гаворыцца даслоўна: «Не адхіляючыся ад удзелу ў гэтых важных і адказных перагаворах, што датычаць справы вялікага палітычнага значэньня, Украінскі Кангрэсовы Камітэт Амэрыкі ўважае неабходным зазначыць, што гэтыя перагаворы й эвэнтуальнае стварэньне Амэрыканскім Камітэтам «Радыя Вызваленьня» й Каардынацыйнага Цэнтру з уваходам у іх украінцаў, у нічым ня зьвязвае ўкраінскіх палітычных угрупаваньняў у іх палітычных змаганьнях і прапагандовай дзейнасьці за здабыцьцё сувэрэннай саборнай Украінскай Дзяржавы».

Як разьвіваліся далейшыя спробы дагаварыцца з Амэрыканскім Камітэтам і якія крокі ў гэтым курунку прадпрыймала й прадпрыймае УНРада, даведваемся з воргану ўкраінскіх бандэраўцаў «Украінскі Самастыйнік» за 7 сьнежаня сёлета. Там у артыкуле «Гэтую справу трэба выясьніць» чытаем:

«Як даведваемся, 11. 11. сёлета адбылося надзвычайнае паседжаньне Рады Дырэктараў УКК, скліканае сп. Л. Дабранскім, на якім ён перадаў зьмест сваей размовы з Стывэнсам (старшыня Амэрыканскага Камітэту — Рэд.) у папярэднім тыдні. Апрача гэтага размову із Стывэнсам адбыла яшчэ асобная дэлегацыя ў складзе сп. сп. Галічына, Пізнака, Душніка і Ярэмы, якія падалі Стывэнсу засьцярогі УКК што да статуту й арганізацыйнай пабудовы г. зв. «Каардынацыйнага Цэнтру Антыбальшавіцкай Барацьбы» (КЦАБ) у Эўропе.

Стывэнс захоўваўся падчас гэтых размоваў вельмі самаўпэўнена, заяўляючы, што ніякіх зьменаў болей ня будзе, аж пакуль украінцы ня прыступяць да КЦАБ-у. Ён дадаў, між іншым, што ў КЦАБ-е ня могуць браць удзелу ні рэвалюцыйная ОУН, ні ЗП УГВР, бо гэта фармацыі «таталітарныя й антысэміцкія». На гэта сябры дэлегацыі УКК мелі заявіць, што характар рэвалюцыйнай ОУН і ЗП УГВР ёсьць нутрана-ўкраінскай справай і ніхто звонку ня мае права да гэтага ўмешвацца, а бяз удзелу гэтых дзьвюх фармацыяў наагул ня можна гаварыць пра якое-небудзь супрацоўніцтва украінцаў з «Цэнтрам».

Пра гэтую размову із Стывэнсам сп. Галічын паінфармаваў безадкладна сп. Дабранскага, які адбыў размову з прадстаўніком урадавых колаў. Гэны прадстаўнік заявіў, што Стывэнс ня меў права выключаць якой-небудзь украінскай фармацыі ад удзелу ў перагаворах ці ад супрацоўніцтва і ён зрабіў гэта на собскую руку. У наступнай размове з сп. Дабранскім Стывэнс ужо ня ставіў папярэдняга вымаганьня што да выключэньня ад супрацоўніцтва рэвалюцыйнай ОУН і ЗП УГВР, а так-жа паабяцаў парабіць некаторыя зьмены ў статуце «Цэнтру», як гэта прапанаваў УКК.

На паседжаньні УКК дня 11. 11. сёлета выклікала сэнсацыю заява сп. Л. Дабранскага пра тое, што паза плячыма УКК, прадстаўнікі УНРады ў ЗША (др. Ст. Вітвіцкі) і ў Эўропе (пяць асоб зь Міколам Лівіцкім на чале) вялі перагаворы на собскую руку ў справе прыступленьня да КЦАБ-у, пры чым яны былі згодныя йсьці на супрацоўніцтва пры цяперашніх перадумовах, а толькі «вымагалі вызнаць УНРаду легальным украінскім урадам». Сп. Дабранскі вельмі войстра напятнаваў гэты крок прадстаўнікоў УНРады, заяўляючы, што якраз такія размовы «унемажліўляюць яму дабіцца адпаведных перадумоваў супрацоўніцтва з «Цэнтрам», бо Стывэнс запэўняе, што вымаганьні УКК максымальныя, а УНРада такіх вымаганьняў ня ставіць». Таму ў Эўропу выяжджае дэлегацыя УКК, складзеная із сп. сп. Дабранскага, Галічына, Ярэмы й Душніка, бо УКК хоча ведаць, якія ёсьць запраўдныя дамаганьні ўкраінскіх асяродзьдзяў у Эўропе, каб такім спосабам мець аргумэнты для эвэнтуальных далейшых размоваў у Вашынгтоне. Першым выехаў 22. 11. В. Душнік, а за 10 дзён выедзе рэшта дэлегацыі . . .»

І далей у тым-жа «Украінскім Самастыйніку» чытаем: «Нас, напрыклад, інфармуюць, што УНРада згаджаецца ўступіць у КЦАБ, калі там будзе ўведзены прынцып парытэту, значыцца калі ўсе нацыянальныя прадстаўніцтвы будуць мець роўную колькасьць галасоў. Пры гэтым УНРада хацела-б яшчэ дабіцца ад гэных «прыватных амэрыканцаў» з Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня Народаў Расеі» вызнаньня яе за «легальны ўкраінскі ўрад». Сёй-той узноў зь кіруючых дзеячоў УНРады, як вось сп. Дм. Андрыеўскі, што праўда саромяцца самі йсьці ў КЦАБ, як таксама адраджываюць туды йсьці УНРадзе, але ўважаюць мэтазгодным і патрэбным, каб у КЦАБ пайшлі паасобныя асобы і «там рабілі карысную для Украіны работу».

Падаючы аб успомненых спробах украінцаў дагаварыцца з Амэрыканскім Камітэтам, а цераз ь яго й з расейцамі, у справе прыступленьня да КЦАБ-у ў парадку аб'ектыўнай інфармацыі, хочам адначасна адцеміць, на колькі перастараліся, не гаворачы ўжо аб украінцах, некаторыя нашыя «гура-патрыёты» з колаў Рады БНР, як і вонках яе, якія, бяскрытычна паддаючыся ўплыву тых-жа ўкраінцаў, ды выстаўляючы іх, як прыклад, нападалі на выканаўчыя органы Рады БНР за такія-ж самыя перагаворы з Амэрыканскім Камітэтам. Тым болей гэта трэба адцеміць, а навет зганіць у сувязі з тым, што Пастанова 6-ай пленарнай сэсыі Рады БНР з 28 кастрычніка 1951 году дазваляла весьці падобныя перагаворы, тады, калі Дэклярацыя ў гэтай справе, прынятая ўкраінскімі партыямі й палітычнымі арганізацыямі, у тым ліку й Выканаўчым Органам УНРады, 25 чэрвеня 1952 году, падобныя гутаркі згары выключала й заяўляла, што «Прыватныя асобы, якія выламаліся-б з супольнага ўкраінскага фронту, будуць разглядацца, як ня прыналежныя да радоў украінскага грамадзянства».

Таму ўсім тым нашым «гура-патрыётам», што бяз украінцаў ня ўмеюць ступіць і шагу, варта было-б пажадаць згодна ведамай беларускай прыказкі: «Вучыцеся ў чужых, але й свой розум мейце!»

(-іч)

# Дзе каня куюць, там жаба нагу падстаўляе

У ўкраінскай бандэраўскай прэсе ў лістападзе месяцы паявілася асьветчаньне Прэзыдыюму Замежнага Сэктару Беларускага Нацыянальнага Цэнтру (беларуская прэса надрукаваць яго адмовілася), у якім было выказанае нэгатыўнае становішча да палітычнай плятформы Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня Народаў Расеі й пратэгаванага ім супольнага з расейцамі каардынацыйнага цэнтру антыбальшавіцкага змаганьня (раней СОНР-у, а цяпер КЦАБ-у), гэтак і да перагавораў некаторых беларускіх колаў, перадусім Беларускага Антыбальшавіцкага Фронту, у справе эвэнтуальнага ўдзелу ў заплянаваным цэнтры.

Ня толькі палітычная арганізацыя, якой быў калісьці БНЦ, але й кажны паасобны беларус можа й павінен выказваць свае пагляды й займаць адпаведнае становішча што да справы ўваходу беларусаў у супольную з расейцамі палітычную арганізацыю, так як гэтае пытаньне зьяўляецца для нас кардынальным і датычыць найвышэйшых прынцыпаў нашае нацыянальна-вызвольнае канцэпцыі. Што БНЦ заняў выразна нэгатыўнае становішча да дасюлешняй палітычнай лініі Амэрыканскага Камітэту, як і творанага супольна з расейцамі палітычнага цэнтру, гэта трэба толькі прывітаць, бо гэта нам дыктуе наш найвышэйшы нацыянальны інтэрас і палітычны розум. Ня іншым было і нашае становішча да гэтага пытаньня ўжо ад самага пачатку мантаваньня такога цэнтру аж да апошняга мамэнту, калі сурагат такога цэнтру ў форме КЦАБ-у ўжо фактычна створаны. І як аказалася, усе беларускія палітычныя групы на эміграцыі, ня гледзячы на некаторыя разьбежнасьці да гэтай справы ў сваіх тактычных ходах, былі згодныя ў тым, што іхні ўдзел у гэным цэнтры, які, пры няскрываным падтрыманьні з амэрыканскага боку, у сваей канчальнай мэце мае рэстаўрацыю адзінай і непадзельнай расейскай імпэрыі й зданьне на ласку й ня ласку расейцам усіх паняволеных народаў, зьяўляецца немагчымым. Доказам гэтага быў наяўны факт, што ў створаным нядаўна КЦАБ-е беларусаў не аказалася.

Таму такое становішча БНЦ ніякіх у нас засьцярогаў ня выклікае й выклікаць ня можа. Але ў успомненым асьветчаньні БНЦ ёсьць і другі бок справы, што да якога, на жаль, можна й трэба мець болей чымся засьцярогі. Усю справу трэба выясьніць да канца, бо ў праціўным выпадку гэта можа ўнесьці няяснасьць і шкодную для нас дэзарыентацыю не сярод беларусаў, якія ў гэтым пытаньні дастаткова арыентуюцца, але сярод чужых грамадзянстваў, тым болей, што, як было зазначана, гэтае асьветчаньне БНЦ паявілася ў украінскай прэсе і ў іншамоўных публікацыях АБН, магчыма будучы апошнімі навет інсьпіраванае.

Вось-жа ў успомненым асьветчаньні Замежны Сэктар БНЦ выступае, як **«адзіны палітычны прадстаўнік беларускай эміграцыі»**, і выходзячы з такога, бясправўна ўзурпаванага становішча, прамаўляе не ад свайго собскага імені, — што ён рабіць меў-бы поўнае права — але ад імяні ўсіх беларускіх палітычных арганізацыяў, ад імяні ўсяе беларускае эміграцыі й ад імяні ўсяго беларускага нацыянальна-вызвольнага руху на чужыне (?!). У асьветчаньні выразна сказана, што «Замежны Сэктар БНЦ не даваў сваей санкцыі ні аднэй беларускай нацыянальна-вызвольнай арганізацыі на ўдзел у акцыі г. зв. Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня Народаў Расеі».

Перад тым, як адпаведна закваліфікаваць такое асьветчаньне, прыгледзімся спачатку, што прадстаўляе сяньня зь сябе БНЦ у запраўднасьці. Аўтар гэтых радкоў зьяўляўся ў 1945 годзе галоўным ініцыятарам заснаваньня БНЦ на эміграцыі, быў адным зь ягоных закладчыкаў на зьезьдзе беларускіх эміграцыйных палітыкаў у Рэгензбургу 15 жніўня 1945 году, у першым прэзыдыюме БНЦ быў ягоным віцэ-старшынёй, а ў трох наступных кадэнцыях ягоным

(Заканчэньне на 4 балоне)

**Найлепшым падаркам на Каляднія Сьвяты для сваякоў, прыяцеляў і знаёмых будзе запрэнумараваньне для іх газэты «Бацькаўшчыны» на 1953 год. Не адкладайце, але ўжо цяпер перашліце грошы для Прадстаўніцтва «Бацькаўшчыны» ў вашай краіне і адрас таго, каму прыносіце ў калядным падарку газэту «Бацькаўшчыну»!**

---

заркавокі. Не кажы, браток, што я тапчу тое, што ты сееш. Хто ведае — можа ты гарэй сваёй гордасьцю топчаш тое, што сею я сваім сэрцам дзявоцкім? Хто ведае?

СЫМОН. (Панура). Бацькаўская магіла і крыж гэты ведае!

ЗОСЬКА. Не пераменны ты, братка! Спапяліць гэта гордасьць табе душу і сэрца, у попел аберне. А злосьць людзкая апаганіць тваю добрую славу, і нічога ты не дакажаш сваім працiўленьнем цэламу сьвету! Не сягоньня, то заўтра пойдзеш па тваей сьцежцы-дарожцы, па якой усе людзі йдуць. Уломяць цябе, апусьцішся і загінеш.

СЫМОН. Але сам я самахоць не загіну, мяне сіла большая загубіць, а ты па сваёй ахвоце сама сябе аддаеш на гэту загубу, на глум вечны!

ЗОСЬКА. (Адходзячы ад Сымона. У старану). Божа! Як-жа мне цяжанька тут жыць! (Садзіцца і ўе вянок. Паўза).

ДАНІЛКА. Крыж рабіць робіш, а на чым яго павязеш?

СЫМОН. Не бядуй па гэтым! Не пайду каня вымаліваць ні да суседзяў, ні там, да іх! На сваіх плячох павязу — яшчэ датрымаюць, — хопе сілы. Я сам на сабе завалаку — балей радасьці спраўлю таму, хто будзе спаць пад гэтым крыжам, а сам буду ведаць тое, што нікому ня кланяўся, перад нікім не жабраваў.

ДАНІЛКА. А каму-ж гэта мамка торбы шые?

СЫМОН. Шые, бо ня мае чаго рабіць. Але як пашые, то я што да аднэй папалю!

МАРЫЛЯ. Пакуль ты, дзеткі, прыбярэшся паліць, то яны самі спарахнеюць на мне, на гэтых малых, а мо' і яшчэ на кім. Вось адна торбачка і гатова! (Падымае на руках, разглядае). Здаецца, добра будзе — ня мала і не вяліка, толькі яшчэ вяровачкі прывязаць. (Шукае і прывязавае).

СЫМОН. Эх, кіньце, мамка, дзяцініцца! Душу ў мяне хочаце вырваць без пары — больш нічога! Не дасьцё спакойна навет крыж гэты кончыць.

МАРЫЛЯ. Што, дзеткі? Я-ж нічога! А што запас бяды ня чыне, то ты сам добра гэта ведаеш і разумееш.

СЫМОН. (Да Данілкі). Паглядзі, Данілка, якога сука крыж зьбіць, бо ўжо ўсё гатова — абгладзіў.

ДАНІЛКА. (Шукае зь сякерай, находзе крук у бервяне і выдзірае). Вось зараз табе гэты кручок выдзеру: тата за яго —як віў путы — пяньку чапляў. (Падае крук Сымону, той абчэсавае і зьбівае крыж).

ЗОСЬКА. Калі-ж ты панясеш яго, Сымонка?

СЫМОН. Калі? Сягоньня! А на што табе ведаць?

ЗОСЬКА. Так сабе, пытаюся. Але-ж гэта ўжо вечар на дварэ: паначы несьці будзе нягодна!

СЫМОН. Няпраўда! Паначы ляпей з крыжам ісьці. Ніхто цябе ня чэпе і не зьняважа. У ночы, а поўначы панясу, але ня ўдзень, бо ў дзень яшчэ і крыж мне выдзяруць, як выдзерлі з сэрца і душы ўсё добрае й сьветлае. У ночы пайду з крыжам на магілкі, як відма якое з таго сьвету, каб аж нябошчыкам жудка было! Адзін тата мяне мой пазнае і радасна выйдзе ка мне на спатканьне, — падзякуе за крыж і баслаўленьне сваё дасьць мне на далейшую вытрываласьць, на далейшую барацьбу зь нядоляй. Бо ён, тата наш, інакшы, як усе нябошчыкі: ён ня лёг зь імі ў вадным мейсцы, а зусім асобна захаваўся ў сырой маці-зямельцы. І крыжык яму панясу я ў ночы, а ня ў дзень, як гэта ўсім носяць і стаўляюць.

МАРЫЛЯ. Я з табой пайду, сынок! Яшчэ-ж ні разу я грэшная не змагла сьцягацца на яго магілку!

СЫМОН. Добра, мамка, панясём з табой! А ты, Зоська і Данілка, астаніцёся пільнаваць малых і хаты.

ДАНІЛКА. Каб ты мяне і гвалтам гнаў, то я не пайду ў ночы ды яшчэ з крыжам. Каб яшчэ ваўкі дзе зьелі або нябошчыкі напужалі.

ЗОСЬКА. (Падходзячы да Сымона). А ты пазволь мне, братка, ісьці туды разам з вамі! Як ты і мамка пойдзеце, мне будзе страшна аднэй тут сядзець. Мне здаецца, што нейкае няшчасьце мяне тут спаткае, як бяз вас астануся.

ЗОСЬКА. Яны спаць лягуць, а я, як цень, буду снаваць тут сама адна. Баюся я гэтага папялішча раскапанага. Мне тут зданьні ўсялякія здаюцца. Вазьмі мяне, братка, з сабою! (Да Марылі). Мамачка, вазьмеце мяне — я несьці памагу крыж вам!

СЫМОН. Перастань лезьці ў вочы! Не твая работа крыжы насіць, або за імі хадзіць. (Чуваць здалёк дажынкавую песьню. Сымон падыймае крыж і стойма дзяржыць яго пры сабе напроць публікі. Усе нейкую мінуту слухаюць песьню).

ЗОСЬКА. Ха! Дажынкавую песьню пяюць!

СЫМОН. Але! Дажынкі ў дварэ!

МАРЫЛЯ. Відаць, к сабе дамоў ідуць.

СЫМОН. Але! Але пара і нам ужо йсьці!

МАРЫЛЯ. (Закручаваючы хустку). Пара, дзеткі! (Сымон узвалівае на плячо крыж і выходзе, за ім Марыля; Зоська памыкаецца таксама йсьці, але варочаецца і канчае плясьці вянок).

## ЗЬЯВА IV

ЗОСЬКА — ДАНІЛКА — ДЗЕЦІ

ЗОСЬКА. Пайшлі! Не ўзялі мяне з сабой. Навет слаўца добрага не сказалі. А так хацела зь імі ісьці, так хацела! Самі крыж панясьлі.

ДАНІЛКА. Э-э! Нацешышся яшчэ, Зоська, з крыжа! Пачакай трохі! Мне ўжо крыж пачынае балець — мусіць з працы каля гэтае іскрыпкі, — будзе і табе тое самае!

ЗОСЬКА. Маўчы ты ўжо ляпей, Данілка, аб гэтым! Ляпей скажы вось, калі ты ўрэсьце скончыш гэту іскрыпку сваю?

ДАНІЛКА. Тады, як ты зносіш вяночак, што цяпер пляцеш.

ЗОСЬКА. А скуль ты ведаеш, што я буду насіць?

ДАНІЛКА. Фі! Каб я ды ня ведаў? Я навет ведаю, калі ты яго зносіш, а значыцца тады і іскрыпачка гэта мая будзе ўжо гатова.

ЗОСЬКА. Калі-ж гэта па твойму будзе?

ДАНІЛКА. Тады, як ты сьцежкі ў двор ня ўбачыш!

ЗОСЬКА. Што-ж гэта я, значыцца, асьлепну?

ДАНІЛКА. Можа і асьлепнеш. Але ты і ўжо ня ўсё бачыш. Эх, Зоська! Шкода мне цябе! У мамкі і Сымонкі ласкі ня маеш, а і там, дзе ты думаеш ласку знайсьці, дабро цябе не чакае.

ЗОСЬКА. Чаму ты так гаворыш, Данілка?

ДАНІЛКА. (Ня слухаючы). Няхай сабе кажуць, што я дурнаваты, што я такі, што я гэткі, але я ўсё бачу і ўсё разумею. Не хачу толькі на верх вылазіць з сваім розумам, бо зь ім цяперашнім сьветам далёка ня зойдзеш. Дурнаваты Данілка, ці зусім дурны — малы клопат! А толькі, што менш яго чапаюць і дрэнчаць, як якога разумнага, то гэта напэўна магу сказаць, бо ня ведаюць, чым насаліць яму, бо Данілка з усяго сьмяецца. А што-ж вы разумныя? Хоць-бы ты, Сымон? Таўпехаецеся, як Марка па пекле, ці як мухі ў смале і больш нічога. Кажны вас шчыпе, кажны вас ашукавае, кажны вас, як то кажуць, б'е і плакаць не дае. А каб вы былі дурныя, то хоць-бы вас і дрэнчылі, але затое ня так моцна, бо ня так-бы вас дурных баяліся, як баяцца цяпер вас разумных.

ЗОСЬКА. Да чаго ты ўсё гэта чаўпеш?

ДАНІЛКА. А хоць-бы к таму, што твой паніч, як адбудзецца з намі суд, едзе кудысь за мора жаніцца.

ЗОСЬКА. (Выпусьціўшы вянок з рук). Як гэта? . . . Што ты кажаш? . . . Паніч будзе жаніцца! . . . Як гэта жаніцца? . . .

ДАНІЛКА. Як будзе жаніцца? . . . Так, як і ўсе добрыя й нядобрыя жэняцца. Ужо-ж ня так, як . . .

ЗОСЬКА. (Перабіваючы). А што-ж мне з таго? Няхай жэніцца! Вялікая мне бяда! Ці-ж ён мой жаніх, ці каханак? . . .

ДАНІЛКА. Дзеля каго-ж ты гэта ў вяночак убірацца сягоньня манішся? Ну, але мне спаць хочацца! (Да дзяцей). Пойдзем, малыя! Хто сьпіць, той не грашыць. Я сягоньня абраў новае лежа для спаньня: на маё шчасьце забыліся будку сабачую раськідаць, дык на мейсца Лыскі нашага, я з вамі, малыя, пасялюся. (Хоча выходзіць).

ЗОСЬКА. (Змагаючыся з сабой). Данілка! Ці гэта праўда, што ты казаў? Ці гэта праўда?

ДАНІЛКА. (Адвярнуўшыся). Вось, на табе груцы з бобам! Дурны сказаў, а разумны і паверыў.

ЗОСЬКА. Дык гэта ты мне наманіў?

ДАНІЛКА. Ведама — наманіў! Ці-ж я ўжо такі, бяз усіх клёпак у галаве, каб разумным праўду гаварыць? Сьпі, сястрыца, спакойна! (Выходзе).

(Далей будзе)

# Ішлі нявольнікі... вызваляць

(Працяг, глядзі № 47—48)

Было якраз пад Радашкавічамі.

На шчасьце, умацаваньняў, якія мы мелі праламаць, ня было, а варожага войска не засьпелі (яно было на заходнім фроньце), хоць страляніны было вунь колькі. Стралялі ўсе, а чаму, дык хто яго ведае. Ці таму, што, як некаму здалося, хтосьці выстраліў у нас з касьцельнай званіцы, ці таму, што тут мела быць польская жандармэрыя, якая «ганарова» змылася? Тым часам гэта не перашкодзіла і ў ротных і ў дывізыйных газэтах захлынацца ад «праяўленага гэраізму».

З Радашкавічаў мы праставалі далей на захад, ішлі праз беларускія вёскі й мястэчкі.

Сустракалі нас розна. Было й так, што праходзілі праз які-небудзь хутар ці засьценак і ня бачылі людзей, адно часамі дзеці, якія заўсёды бываюць найбольш цікаўнымі, баязьліва пазіралі праз плот. Было й гэтак, што людзі моўчкі пазіралі на нас, не сьпяшаючыся выказваць сваіх пачуцьцяў. У іншых мясьцінах нам крычалі ведамае з дому «гура» ды «няхай жыве».

Сустракалі й добрым, даўнейшым беларускім звычаем — хлебам і соляй ды кідалі краскі на шлях. Вось гэткія часіны выклікалі ўзрушэньне й разам жаль да гэтых простых, даверлівых людзей, якія, відаць, верылі не на жарт, што разам з намі прыйдзе ў гэты яшчэ гадзіну таму забраны, паняволены край і даўно сьнёная свабода, і нацыянальная незалежнасьць, і матарыяльны дабрабыт для ўсіх. У галаве роіліся няўцешныя думкі, бо кажны з нас, у каго захаваўся хоць драбок чалавечага пачуцьця спагады, добра ведаў, што міне небагата часу й там, дзе сяньня нам пляскаюць у далоні, што вось гэтак вясковай вуліцай, дзе сяньня сыплюць краскі, пройдзе ці адзін з гэтых людзей зь сьлязамі на вачох, зь нявымоўнай крыўдай на сэрцы, прыгнобленым, бязь веры ў душы, ня маючы навет удостань гэтага чорнага жытняга хлеба, якім нас сяньня сустракалі.

Нас агортвала ўзрушэньне, бо даўно ня бачылі сапраўднае, нікім і нічым не сьцеражонае, ад паўніні сэрца чалавечае чыстае шчырасьці, зь якой беларускія людзі выяўлялі свае пачуцьці. Разам з узрушэньнем нас агортваў жаль, бо мы добра ведалі, што неўзабаве будзе бязь літасьці, з надруганьнем кінута пад ногі й гэтая людзкая шчырасьць, і сукрытыя спадзяваньні-надзеі, і вера, што замест сьнёнае свабоды й нацыянальнае незалежнасьці прыйдзе з ланцужнае краіны расейска-бальшавіцкі талмудысты з налепкамі на вуснах «партия и правительство», «великий и мудрый», «старший брат», з налепкамі, перад якімі трэ' будзе маліцца, як перад сьвятымі абразамі, маючы ў заплату заместа аднае другую няволю.

Мы ведалі, што замест зьдзейсьненьня гадаванае ў душы праз цэлыя дзесяцігодзьдзі ды пранесенае праз розныя жыцьцёвыя нягоды незгасальнай мары людзі будуць кінутыя на самае дно жыцьця. І таму рабілася цяжка на сэрцы й за сябе й за гэтых даверлівых людзей, на душы якіх замест радасьці застанецца горка-пякучая слата.

Пад мястэчкам Краснае нацянькі праз поле насустрач да нас бег селянін, трымаючы шапку перад сабой. Ён быў босы, у белых зрэбных нагавіцах. Падбегшы ён неяк супуціўся ці мо' ад усхваляванасьці ня мог вымавіць слова, адно пазіраў гэткімі шырокім вачыма. А калі аддыхаўся — прамовіў шчырым простым сялянскім словам:

— А браткі-ж вы мае, мы ўжо даўно гэтак чакалі на вас.

Ня мінула й году, як вось гэты самы селянін, якому тады ўжо напэўна настырліва балабонілі пра бальшавіцкі калгас, пра сталінскія зьяду-клопаты, ці раз падумаў або сказаў сам да сябе, бо на людзях ужо ня ўсё можна было гаварыць:

— Адубелі-б яны, даруй Божа, як мелі да нас прыйсьці.

Вось гэтак, пры першым дотыку да савецкае рэчаіснасьці людзі розных грамадзкіх пластоў вызваляліся ад ілюзыяў. У гэтым сэнсе чырвоная армія несла сапраўднае вызваленьне й не адно для Заходняе Беларусі, але скрозь, куды яна дапінала пазьней: ілюзыі што да бальшавіцкага «раю» разьвейваліся, а іхнае месца заступала голая, распранутая з агітацыйных ухарошваньняў, цяжкая праўда нявольніцкага жыцьця.

Тым часам мы «пераможна» ішлі ў глыб Заходняй Беларусі. Здарылася пад Маладэчнам. Быў, як кажуць у войску, прывал. Па шашы з посьвістам мільганула паўз нас аўта, доўгае, чорнае, падобнае з выгляду да амэрыканскага бюіка. Нельга было заўважыць, хто там ехаў, але, мяркуючы па аўту, былі там ня простыя ягамосьці.

Гэтым разам наважыў прадэманстраваць сваю адвагу наш капітан-кадравік. Тут зробім маленькае, але важнае адступленьне. Тады бальшавікі аўтаматаў яшчэ ня мелі, іх упяршыню ўбачылі ў фінаў. Праўда, у 1939 годзе бальшавікі мелі, як апошнюю навінку свае «айчыннае тэхнікі» — аўтаматычную стрэльбу на дзесяць набояў. Але яе адразу давялося выкінуць на злом. У габінэце, дзе ня было навет пылу, ужо ня кажучы пра пясок, мо' яна й добра страляла. Але ў палёвых умовах пасьля двух-трох стрэлаў ня толькі ейная «аўтаматычнасьць» запынялася, а наагул яна не страляла, у чым мы пераканаліся яшчэ на ўскраіне Радашчавічаў. Таму й капітан, маючы на ўвазе наш досьвет, палічыў за больш надзейную стрэльбу — трохлінейку. Ён схапіў гэтую стрэльбу й рынуўся ў легкавое аўта — найноўшае савецкае аўта М-1 ці проста «эмка», як яго называлі.

Я стаяў побач з маім сябрам лейтэнантам. Шаша была роўная й можна было бачыць якую часіну сусьцігі двух аўтаў. Калі замест аўтаў застаўся адно пыл на шашы, лейтэнант з характэрнай сваёй усьмешкай сказаў:

— Бачыш, як разагнаўся наўзавадкі з капіталістычным сьветам. А ён, ліханька яму, не паддаецца. Вось і паспрабуй дагнаць. «Эмка» пакуль разаганялася, дык тых ягамосьцяў нібы стрэл панёс. Вось табе й сусьцігі. А гэта-ж найноўшае маскоўскае, можна сказаць, сталічнае аўта. Відаць, языком цялёпкаць лягчэй, а як да справы, дык яно наадварот. Гэтак у «таварышаў» заўсёды.

Праз колькі часінаў вярнуўся капітан, нічога не ўпаляваўшы. Але такі прызнаўся, калі, выходзячы з «эмкі», сярдзіта сказаў, нібы для апраўданьня:

— Сволачы, мелі шчасьце, што іхнае аўта лепшае.

Раніцай, ня памятую якога дня, наш аддзел пераправіўся праз Нёман, мінуў Горадню й над вечар апынуўся на чыгуначнай станцыі паблізу летувіскай граніцы. Пасьля кароткае перастрэлкі з польскім аддзелам, у часе якой мы страцілі адно панцырнае аўта і колькі чалавек забітымі, занялі станцыю ды захапілі даволі шмат уцекачоў, відаць, польскіх службоўцаў зь сем'ямі. І вось тут здарылася не такое ўжо цікавае, як паказальнае што да маральнае ўзроўні не радавога, а пэўнае часткі камандна-палітычнага складу чырвонай арміі.

Уцекачы, мужчыны асобна й жанчыны асобна, ноч перабылі ў будынку станцыі. Раніцай каменданту станцыі далажыў патруль, што ўначы парторг аддзелу, палітрук і камандзер аднае роты (усе былі кадравікамі) нечага шукалі ў вазох затрыманых людзей. Зброі шукаць не маглі, бо ўсе вазы былі ператрэсеныя адразу. Таму гэтая ночная «візыта» была з «уласнае ініцыятывы». Пра яе няўзабаве «пад сакрэтам» ад сваіх сяброў ведалі ўсе жаўнеры. Раніцай, калі ўцекачы былі вызваленыя з пад арышту й адпушчаныя (пазьней яны напэўна ня мінулі высылкі), да камандзера станцыі прыйшло колькі жанчынаў з скаргаю на тое, што зь іхніх пакункаў у вазох зьніклі розныя рэчы, сярод якіх былі й вялікай вартасьці. Тут быў звычайны рабунак-крадзеж, які у тэй-жа чырвонай арміі завецца марадзёрствам, за што, паводля савецкага вайсковага статуту, належыць самае суворае пакараньне. Для адводу вачэй жанчынам сказалі, што справу высьвятляць, вінаватых пакараюць, а рэчы зьвернуць. Пра здарэньне было дакладзена камандзеру аддзелу. Але на гэтым усё й скончылася, бо «работка» была рук самога начальства. Здарэньне, як кажуць у саветах, засталося «зацёртым», мабыць таму, каб не паніжаць «высокай годнасьці чырвонага камандзера» перад радавымі. Ды, мякка кажучы, ніякавата было-б і перад цывільнымі, калі-б яны ў гэткі «ўрачысты вызвольны мамэнт», у часе першага знаёмства даведаліся, што палітрук ці камандзер ды ня зусім чысты на руку. А калі-б, прыкладам, гэтак на свой адум зрабіў радавы, дык для «аўтарытэту» чырвонай арміі ў вачох жыхарства гэткі ахвотнік на чужое быў-бы не пазьней 24-ох гадзінаў расстрэлены. Падобныя выпадкі былі й пра іх шырака апавяшчалася й сярод войска й сярод цывільных.

У гэты-ж дзень па паўдні майму сябру лейтэнанту ў штабе далі загад заняць польскую заставу на адным з пунктаў ля ракі Мэрачанкі. Позна ўвечары застава была занятая, на шчасьце, бяз бою, бо палякі коратка перад гэтым яе пакінулі.

Тут лейтэнанту давялося быць навет крыху ў ролі «дыпляматы». Уначы ён выклікаў зь летувіскага боку ахвіцэра. Сустрэча адбылася на сярэдзіне мосту праз Мэрачанку. Пры кажным было па жаўнеру. Летувіскаму ахвіцэру лейтэнант перадаў, што «савецкае камандаваньне запэўняе недакранальнасьць летувіскай граніцы». Але ня мінула й году, як прыйшла чарга на ўсю Прыбалтыку.

Адыходзіў лейтэнант з мосту з прыкрым пачуцьцём, выкліканым ня «дыпляматычнай роляй», з чаго ён сам сьмяяўся, а драбніцай «абывацельскай», як там сказалі-б. У параўнаньні навет зь летувіскім ахвіцэрам, ён, камандзер найбольшай на сьвеце арміі, выглядаў жабраком. Мабыць летувіс дзівіўся зь ягонага ўбору — шырокай і даўгой не па росту бруднай шынэлі ды з ботаў, якія нагадвалі неданошаныя атопкі. Тут гэта прыкра рэзала вочы, ня так, як там, дома, дзе ўвесь народ гэтак-жа блага апрануты.

(Заканчэньне будзе)

Язэп Менскі

# Дзе каня куюць...

(Прадаўжэньне на 5 балоне)

старшынёю, а таму мае ўсе падставы ўважаць сябе за найбольш паінфармаванага ў справе БНЦ.

Вось-жа аб'ектыўна трэба сьцьвердзіць, што да 1948 году, г. зн. да часу актывізацыі Рады БНР, Беларускі Нацыянальны Цэнтр быў узапраўды адзіным актыўным палітычным прадстаўніцтвам беларускае эміграцыі, але **толькі** беларускае эміграцыі ў Нямеччыне, бо ў іншых краінах беларуская палітычная дзейнасьць, калі й каардынавалася часамі з такой-жа дзейнасьцю ў Нямеччыне, то была, аднак, ведзеная незалежна ад БНЦ. Затое ўсім палітычным жыцьцём беларусаў у Нямеччыне кіраваў тады БНЦ, ён-жа ад імяні беларусаў выступаў навонкі, кажны год сыстэматычна адбываў агульныя зьезды сваіх сяброў і праводзіў, згодна статуту, перавыбары свайго прэзыдыюму. Калі-ж у 1948 годзе зактывізавала і разьвінула сваю шырокую дзейнасьць Рада БНР, тады яна, побач із сваімі вышэйшымі дзяржаўнымі заданьнямі, пераняла таксама і ўсю палітычную дзейнасьць БНЦ, тым болей, што вялікая часьць сяброў БНЦ і ўсе сябры ягонага прэзыдыюму былі адначасна сябрамі Рады БНР. У сувязі з гэтым, пасьля адбыцьця свайго апошняга гадавога зьезду 13-14 сакавіка 1949 году і выбару свайго апошняга прэзыдыюму, дзейнасьць БНЦ спынілася поўнасьцю ды й сама арганізацыя закансэрвавалася, а фактычна самазьлiквідавалася.

І толькі ў кастрычніку сёлета група былых сяброў БНЦ, якая не даходзіць навет да дзесяцёркі, пры гэтым у бальшыні сваей зусім не сябры прэзыдыюму, выбранага апошні раз у 1949 годзе, ад імя Прэзыдыюму Замежнага Сэктару БНЦ абвесьціла вышэй успомненае асьвяетчаньне БНЦ, як «адзінага палітычнага прадстаўніцтва беларусаке эміграцыі». Ці-ж ня сьмешная ўся гэтая дзяціная гульня?

Мы баронімся перад думкай, што гэтым сваім самазваным выступленьнем групка былых сяброў БНЦ хацела сьвядома праявіць злую волю і выклікаць навонкі дэзарыентацыю ў справе запраўднага беларускага палітычнага прадстаўніцтва на эміграцыі. Мы ўважаем, — і гэта, здаецца, будзе адказваць запраўднасьці — што ўва ўсей гэтай несамавітай гісторыі маем дачыненьне выключна з камплектнай палітычнай бязграматнасьцю некалькі безадказных адзінак, якія, згодна ведамай прыказкі — «дзе каня куюць, там жаба нагу падстаўляе» — задумалі пагуляць у вялікую палітыку, або наіўна даліся выкарыстаць няпрыхільным да нас вонкавым дзейнікам. Тым ня меней, такія безадказныя й несалідныя вылазкі зьяўляюцца для нас усё-ж такі шкоднымі тым, што яны ў вачох чужынцаў могуць нас кампраматаваць, бо як нас бачаць, гэтак нас і цэняць.

Ст.

# Да нашых Прадстаўніцтваў

**Каляднія нумары нашае газэты (№ 51-52 за 25. 12. 1952 году й № 1-2 за 7. 1. 1953 году) будуць высланыя нашым прадстаўніцтвам паза Нямеччынай у большай колькасьці з просьбай, каб апошнія разаслалі іх, як пробныя нумары, тым ведамым ім Беларусам, якія дагэтуль «Бацькаўшчыны» не атрымлівалі.**

**Рэдакцыя зьвяртаецца да ўсіх сваіх прадстаўніцтваў зь вялікаю просьбаю зрабіць усё ад іх залежнае й магчымае дзеля павялічэньня ліку падпішчыкаў «Бацькаўшчыны» за 1953 год, што зьяўляецца справай вялізарнага значэньня з гледзішча на ўтрыманьне й захаваньне нацыянальнай сьведамасьці й нацыянальнай актыўнасьці нашае эміграцыі.**

**Выдавецтва й Рэдакцыя «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»**

# Падвойнае аблічча Ціты

**Цікавыя разважаньні прыносіць нямецкі тыднёвік «Рэйнішэр Мэркур» у нумары 49 за 5. 12. 1952 г. у артыкуле «Падвойнае аблічча Ціты» аб няпрыязьні й навет байкатаваньні дзяржавамі Заходняй Эўропы гішпанскага рэжыму генэрала Франка, ня могучы дараваць яму і пeратравіць ягонага «фашызму», ня гледзячы на тое, што Гішпанія таго-ж Франка не паддалася намовам Гітлера выступіць на ягоным баку ў вапошняй вайне й патрапіла захаваць нэўтральнасьць, а сяньня зьяўляецца адным з найбольш наважаных і паважных фактараў антыкамуністычных. А ў той самы час Захад ахвотна фліртуе з камуністычнай Югаславіяй Ціты, дае ей помач і шырака адкрывае дзьверы да супрацоўніцтва, тады, калі цітаўская Югаславія асталася, як і была, камуністычнай, таталітарнай, антыдэмакратычнай і ваяўніча антырэлігійнай, з тэй толькі розьніцай ад іншых камуністычных дзяржаваў Эўропы, што яна патрапіла вызваліцца з пад гэгэмоніі камуністычнае Масквы й поўнасьцю ўнезалежніцца, г. зн. заняць у дачыненьні да Савецкага Саюзу больш менш такое становішча, зь якога ніколі ня сходзіў ген. Франко. Гэты кароткі, але вельмі цікавы артыкул, зьмяшчаем ніжэй поўнасьцю.**

**Рэдакцыя**

*

Абаронькі заходняй дэмакрацыі, здаецца, часамі зьяўляюцца на адно вуха глухімі і адно вока сьляпымі. Мы можам сабе прадставіць хвалю пратэстаў, якія былі-б інсцэнізаваныя, калі-б, прыкладам, генэрал Франко быў запрошаны якой-небудзь эўрапэйскай дзяржавай зь дзяржаўнымі адведзінамі. У дачыненьні да камуністычнага Ціты, здаецца, ёсьць іначай, тут замыкаюцца абое вушэй і вачэй на глуха, запрашаецца яго прыбыць у Лёндан, і аб ніякіх пратэстах ня чуваць. Тут задаволеныя, што Ціта ўважае сябе за антысталіністага й пасварыўся з Масквой. Што ён унутры астаўся верным мэтодам і сьветагляду свайго адзінага вучыцеля, на гэта не зьвяртаецца ўвагі і ўсе ўсправядліўляюць сябе тым, што тут расходзіцца пра «нутраныя дачыненьні», у якія ня можна ўмешвацца.

Аднак паўстае адно зьявішча, якое ў канцы канцоў змусіць прывесьці да рэвізыі такога настаўленьня Захаду. Створаная на кангрэсе югаславянскай камуністычнай партыі ў лістападзе сёлета «Камісыя для змаганьня з клерыкалізмам» у міжчасе адбыла сваё першае паседжаньне; інфармацыі, якія надыйшлі аб гэтым, паказваюць, што Ціта вызначае ня толькі першае месца антыкасьцельнаму змаганьню ў будучыні ў ідэалягічнай дзейнасьці партыі ў сваей краіне, але імкнецца зарганізаваць **інтэрнацыянальны антыкаталіцкі рух** пры помачы сацыялістычных партыяў нямецкай саюзнай рэспублікі, Францыі, Італіі й Аўстрыі, які нічога меншага ня мае на мэце, як зьнішчэньне касьцёлу. Ціта хоча пры гэтым выперадзіць францускую й бальшавіцкую рэвалюцыю, якім не ўдалося зьнішчыць царквы. Адзін з найбліжэйшых супрацоўнікаў Ціты меў выразіцца, што савецкая стратэгія дзеля зьнішчэньня царквы зьяўляецца «дзяцiннай» ў параўнаньні з разьвіванымі Цітам плянамі.

Некаторыя з гэтых плянаў сталіся ўжо ведамымі. Паводля дублінскай газэты «Стандард», Ціта мае намер навязаць сувязі з Бэльграду з усімі антыкаталіцкімі сіламі сьвету. Перадусім ён спадзяецца знайсьці памагатараў для гэтага «крыжовага паходу» ў колах левага крыла СПД (нямецкай сацыял-дэмакратычнай партыі — Рэд.). Людзі сувязі аб'яжджаюць якраз заходняэўрапэйскія краіны, перадусім Нямеччыну, дзе намагаюцца знайсьці адпаведныя друкарні для друкаваньня прапагандовага матарыялу, які павінен уплываць у вадпаведным духу на нямецкае насельніцтва.

Але калі Захад не зразумее, што абарона супраць бальшавізму павінна выходзіць у першай лініі з духовага задзіночаньня й адзінства, калі ён дазволіць, каб наймацнейшыя духовыя сілы былі пры гэтым падважаныя, тады ён будзе змушаны здацца й здаць свае прынцыпы й апынуцца зь Цітам на ўзроўні простага рывалізацыйнага змаганьня, у якім напасьледак станецца амаль абыякавым, хто будзе пераможнікам.

**Р. Ф.**

# Лябараторыя для прадаўжэньня жыцьця Сталіна

У ангельскім журнале «Для ўсіх» (Эвэрыбодіс) за 15 лістапада сёлета быў зьмешчаны артыкул др. М. Саботніка, у якім была апісаная арганізацыя й «дзейнасьць» «лябараторыі для прадаўжэньня жыцьця Сталіна». Пададзеныя ў ей факты, згодна нармальнага людзкога ўяўленьня, выдаюцца фантыстычнымі, але для таго, хто знаёмы з агіднымі гістарычнымі тайніцамі маскоўскіх царскіх, імпэратарскіх і камуністычных палацаў — бяспрыкладная распуста імпэратарыц, убійствы любоўнікаў, сынаўбійствы, бацькаўбійствы, распуціньяда і г. п., «лябараторыі для прадаўжэньня жыцьця Сталіна» ня будуць выдавацца надзвычайнымі.

Як падае аўтар артыкулу, ён галоўных пэрсанажаў «лябараторыі» знаў асабіста.

Кіруе «лябараторыяй» др. Фрэнкель, былы вучань акадэміка Багамольца, які ў Кіяве праводзіў досьледы над прадаўжэньнем жыцьця чалавека. Пад наглядам Фрэнкеля жыцьцё й здароўе Сталіна прабывае ўжо ад 1937 году. У 1939 годзе была зарганізаваная дасьледчая «лябараторыя», да якой дабрана трыццаць «сталінаў» — прыблізна аднолькавага веку із Сталінам, аднолькавай фізычнай будовы і г. п. зь ягоных суродзічаў — грузінаў, у гэтым ліку аднаго родзіча — Якуба Геладзэ — сына брата маткі Сталіна. Якуб Геладзэ, які на тры гады зьяўляецца малодшым за Сталіна, вельмі падобны ўродаю да Сталіна. Гэтае падабенства было выкарыстанае падчас мінулай вайны для таго, што Якуб Геладзэ замест запраўднага Сталіна езьдзіў на фронт для дэманстраваньня «гэраізму вялікага і мудрага» і «павышэньня духа арміі».

«30 сталінцаў» жывуць у спэцыяльнай санаторыі на Каўказе пад спэцыяльнай ахаронай НКВД, і там над імі праводзяць досьледы спэцыяльным штатам ведамых лекараў. Сэнс досьледаў палягае на тым, што на іх выпрабоўваюць розныя «жыцьцёвыя элексіры», якія пасьля выпрабаваньня даюцца Сталіну. Жыцьцё «30 сталінцаў» да найменшых драбніцаў зьяўляецца такім, як яго вядзе сам Сталін, уключна з курэньнем тытуну, выпіваньнем водкі, спацырамі, важэньне «сталінаў» на аўтамашынах із шыбкасьцю 70 міляў на гадзіну, што мае адтвараць спосаб язды Сталіна з Крамля на летнішча і г. п.

Перад вайной «трыццаць сталінаў» былі падданыя досьледам у кіяўскай лябараторыі Багамольца. Адзінаццаць нешчасьлівых грузінаў памерлі да трох месяцаў гэных экспэрымэнтаў, а да году яшчэ трох. Памерлыя былі замененыя новымі. Агулам «запас», зь якога могуць папаўняць колькасьць трыццацёх «сталінаў», складае да 200 суродзічаў Сталіна, якімі спэцыяльна апякуюцца.

У часе мінулай вайны адзін з маскоўскіх хірургаў вынайшоў «машыну жыцьця», з дапамогаю якой чалавеку, што пасьля раненьня памёр, на працягу першых шасьці мінут пасьля клінічнага азначэньня мамэнту сьмерці, цераз урухомленьне пры дапамозе машыны кровабегу й дзейнасьці сэрца, вярталася жыцьцё. Сталін так зацікавіўся гэным вынаходам, што для яго была сканструаваная спэцыяльная такая «машына жыцьця», якая на працягу апошніх трох гадоў, разам зь ейным вынаходнікам, неадлучна прабывае разам із Сталінам, які зьяўляецца хворым на сэрца.

(За «Украінскай Думкай»)

# *Ад Выдавецтва «Бацькаўшчыны»*

**«Бацькаўшчына» знаходзіцца ў цяжкіх матарыяльных умовах і далейшае ейнае існаваньне зьяўляецца сур'ёзна загрожаным. Нашыя надзеі, пакладаныя на падпішчыкаў, далёка не апраўдаліся, бо шмат ёсьць такіх, што аплачваюць належнасьць за газэту вельмі нерэгулярна й няпоўна, а некаторыя стараюцца мець яе зусім задарма, ня гледзячы на тое, што іхнае матарыяльнае палажэньне дазваляе за яе плаціць. А тымчасам эвэнтуальнасьць спыненьня выдаваньня «Бацькаўшчыны» была-б вялікім ударам для нашай нацыянальна-вызвольнай справы. Гэта бясспрэчна разумее кажны сьвядомы і ідэйны беларус. Але мала разумець гэта, а трэба проціўдзеіць, каб «Бацькаўшчына» не памерла. Калі-б усе тыя, што атрымліваюць і чытаюць «Бацькаўшчыну», поўна й рэгулярна аплачвалі за яе належнасьць, існаваньне й далейшае праспэраваньне газэты было-б забясьпечаным.**

**Таму зьвяртаемся ды ўсіх нашых чытачоў з гарачай просьбай — поўнасьцю ўрэгуляваць да Новага 1953 году ўсю залегласьць за газэту й аплаціць падпіску за 1953 год наперад. Дасюлешніх падпішчыкаў «Бацькаўшчыны» просім правесьці кажнаму ў сваей мясцовасьці акцыю папулярызацыі й пашырэньня нашае газэты з мэтаю прыдбаньня новых падпішчыкаў. Адначасна зазначаем, што ўсім тым, якія да Новага Году ня ўрэгулююць залегласьці за «Бацькаўшчыну», й не аплацяць падпіскі наперад, далейшая высылка газэты, пачынаючы ад 1 студзеня 1953 году, будзе неадхільна спыненая. Нашых Паважаных Прадстаўнікоў ува ўсіх краінах паза Нямеччынай гэтым просім а б а в я з к а в а спыніць высылку газэты ад 1 студзеня 1953 году ўсім тым, якія ня выканаюць вышэй сказанага, а лішнія, заашчаджаныя такім спосабам, эгзэмпляры разаслаць у якасьці пробных нумароў тым беларусам, якія дагэтуль «Бацькаўшчыны» не атрымлівалі.**

**Выдавецтва «Бацькаўшчыны»**